# Падзеі ◆ Здарэнні ◆ Факты ◆ Каментарыі ◆ Весткі

##  СВЕТ

### РАШЭННЕ АБ НАЦЫЯНАЛІЗАЦЫІ

Нью-Йорк. Як перадае карэспандэнт агенцтва Асошыэйтэд Прэс з Рангуна, там афіцыйна аб'яўлена аб нацыяналізацыі ўрадам Бірмы 168 прамысловых і гандлёвых прадпрыемстваў. Сярод іх 60 тэкстыльных прадпрыемстваў, а таксама буйныя прадуктовыя і прамтаварныя магазіны.

### ПЕРАМОГА КАМУНІСТАЎ

**Парыж.** Два камуністы выбраны ў муніцыпальны савет горада Тамплеў (дэпартамент Нор).

На частковых муніцыпальных выбарах кандыдаты ФКП выступілі ў саюзе з сацыялістамі.

У муніцыпальным савеце горада Тамплеў будуць прадстаўлены цяпер чатыры саветнікі-камуністы.

### ДЭМАНСТРАЦЫЯ ЖЫХАРОЎ ТРУШЧОБ

**Дэлі.** Тысячы жыхароў бамбейскіх трушчоб выйшлі на вуліцы горада, патрабуючы ад улад паляпшэння жыллёвых умоў.

Як паведамляе газета «Нэшнл геральд», у цэнтры Бамбея паміж паліцыяй і ўдзельнікамі дэманстрацыі адбыліся сутычкі. 25 дэманстрантаў, у тым ліку некалькі жанчын, і дзевяць паліцэйскіх атрымалі раненні. Праведзены арышты.

### ВЫСЛАН З ЧССР

**Прага.** Чэхаславацкія ўлады выслалі з ЧССР карэспандэнта амерыканскай газеты «Нью-Йорк таймс» Т. Шульца. Як адзначаецца ў заяве міністэрства замежных спраў ЧССР, перададзенай агенцтвам ЧТК, Т. Шульц груба злоўжываў сваім становішчам журналіста і займаўся зборам сакрэтнай інфармацыі палітычнага і ваеннага характару.

### УВЕСЦІ РУСКУЮ МОВУ Ў ААН

**Нью-Йорк.** Першы камітэт Генеральнай Асамблеі ААН адобрыў праект рэзалюцыі, які рэкамендуе Генеральнай Асамблеі зрабіць рускую мову рабочай мовай Асамблеі і Савета Бяспекі. У цяперашні час рабочымі мовамі Асамблеі з'яўляюцца англійская, французская і іспанская, а Савета Бяспекі — англійская і французская.

### У ПАСТЦЫ ШПІЯНАЖУ

Бессаромнае ўмяшанне ў асабістае жыццё англічан розных вышуканых агенцтваў і кантор, што дзейнічаюць па ўсёй краіне, прыняло такія памеры, што гэтае пытанне было вынесена на разгляд англійскага ўрада. У цяперашні час кабінет міністраў вывучае планы расследвання дзейнасці фірм, якія арганізуюць падслухоўванне тэлефонных размоў і вядуць прамысловы шпіянаж.

### БУЙНЫ ЗАКАЗ

Савецкія станкабудаўнічыя прадпрыемствы пастаўяць у 1969—1970 гадах брацкай Польшчы вялікую партыю металарэзных станкоў. Кантракт на суму каля 7 мільёнаў рублёў падпісан 4 снежня ў Маскве паміж Усесаюзным знешнегандлёвым аб'яднаннем «Станкаімпарт» і польскім знешнегандлёвым прадпрыемствам «Металэкспарт».

##  БССР

### ПАСТАЯННЫХ

У сувязі з маючай адбыцца пятай сесіяй Вярхоўнага Савета Беларускай ССР сёмага склікання адбылося сумеснае пасяджэнне планава-бюджэтнай і галіновых камісій Вярхоўнага Савета БССР. Былі заслуханы даклады намесніка Старшыні Савета Міністраў БССР, старшыні Дзяржплана БССР **П. Каханава** аб праекце Дзяржаўнага плана развіцця народнай гаспадаркі Беларусі на 1969 год і міністра фінансаў БССР **Б. Шацілы** аб праекце Дзяржаўнага бюджэту Беларускай ССР на 1969 год і аб выкананні бюджэту за 1967 год.

Прамысловасць Беларусі план па аб'ёму рэалізацыі прадукцыі за дзесяць месяцаў гэтага года выканала на 103,2 працэнта. Дасягнуты пэўныя поспехі ў развіцці сельскай гаспадаркі і іншых галін народнай гаспадаркі. Усе вобласці і гор. Мінск перавыканалі даходную частку дзяржаўнага бюджэту.

### УНУТРАНЫХ

Прэзідыум Вярхоўнага Савета Беларускай ССР перайменаваў Міністэрства аховы грамадскага парадку БССР у Міністэрства ўнутраных спраў БССР.

Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР утварыў аддзелы ўнутраных спраў выканаўчых камітэтаў раённых і гарадскіх Саветаў дэпутатаў працоўных, скасаваўшы існуючыя аддзелы міліцыі.

### В'ЕТНАМ

Шэсць дзён у Беларусі знаходзілася дэлегацыя дзеячаў асветы Дэмакратычнай Рэспублікі В'етнам на чале з міністрам асветы ДРВ **Нгуен Ван Хюэнам.** Госці выязджалі ў раёны, сустракаліся з настаўнікамі і вучнямі.

Дэлегацыю прыняў міністр асветы БССР **М. Мінкевіч.**

### МІНСКАЙ

У сталіцы Беларусі адбыліся Дні Мінскай вобласці. Як мы ўжо неаднаразова інфармавалі, падобныя святы ладзіліся ў беларускай сталіцы ўсіх абласцей рэспублікі. Адбываліся яны з нагоды падрыхтоўкі да 50-годдзя БССР і Кампартыі Беларусі.

### ЗАСЛУЖАНАГА

Апублікаваны Указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай ССР аб прысваенні ганаровага звання Заслужанага дзеяча культуры Беларускай ССР пісьменніцы **Канстанцыі Калечыц (Буйла),** пісьменнікам **Піліпу Пестраку** і **Алесю Якімовічу.**

### БРЭСЦКАГА

З публікаваных у беларускім друку паведамленняў даведваемся аб разбудове Брэсцкага электралямпавага завода, вялікай інвестыцыі пяцігодкі, аснашчанай у асноўным польскім тэхналагічным абсталяваннем.

### ДЗЯРНОЎСКАЙ

Газета «Звязда» апублікавала карэспандэнцыю польскай пісьменніцы **Яніны Дзярноўскай** «Курс — наперад!», прысвечаную 50-годдзю Камуністычнай партыі Польшчы і 20-годдзю ПАРП.

### КЛЯШЧОЎ

Памёр **Аляксей Кляшчоў,** арганізатар партызанскага руху на Палессі, а пасля вызвалення партыйны і дзяржаўны дзеяч Беларусі, у 1948 годзе вылучаны на пасаду Старшыні Савета Міністраў БССР. (С. Я.)

##  ПОЛЬШЧА

### ГАЛОЎНЫЯ НАПРАМКІ

У Цэнтральным Камітэце ПАРП адбылася нарада, прысвечаная галоўным напрамкам і актуальным праблемам ідэйна-выхаваўчай працы ў галіне партыйнай прапаганды, друку і культуры. У нарадзе прынялі ўдзел сакратары прапаганды ваяводскіх камітэтаў партыі, галоўныя рэдактары штодзённых газет і партыйных часопісаў, агенцтваў друку, кіраўнікі радыёвяшчання і тэлебачання.

Нарадай кіраваў намеснік члена Палітбюро, сакратар ЦК Ян Шыдляк. Удзельнічаў у нарадзе таксама сакратар ЦК Стэфан Альшоўскі, які ў сваім выступленні, між іншым, звярнуў увагу на неабходнасць далейшага развіцця інфармацыі і мерытарычных дыскусій у друку, на патрэбу развівання крытыкі, лепшага паказу жыцця ў братніх сацыялістычных краінах, афензіўнай трактоўкі праблематыкі імперыялістычных дзяржаў ды іх супярэчнасцей. С. Альшоўскі гаварыў таксама пра апошнія пастановы, накіраваныя на паляпшэнне матэрыяльна-тэхнічнай базы радыёвяшчання, тэлебачання і друку, паляпшэнне сітуацыі ў паліграфічнай прамысловасці, як для патрэб друку, так і для патрэб кніжных выдавецтваў.

Намеснік члена Палітбюро, сакратар ЦК Я. Шыдляк зрабіў ацэнку сітуацыі ў галіне прапаганды, партыйнай асветы і ў некаторых іншых галінах ідэйна-выхаваўчай дзейнасці. Шыдляк паінфармаваў прысутных, што ў бліжэйшы час будзе ўтворана ідэалагічная камісія ЦК ПАРП, якая ў сваёй дзейнасці зоймецца галоўнымі праблемамі ідэалагічнага фронту.

### ПІСЬМО СТАРШЫНІ

Друк публікуе пісьмо старшыні Цэнтральнай Рады Прафсаюзаў І. Лёгі-Савінскага, з якім звяртаецца ён да актыву рабочага самакіравання. У гэтым пісьме, м. ін., піша:

«Мінае дзесяць год з дня прыняцця Сеймам ПНР пастановы аб рабочым самакіраванні, вызначаючай правы і арганізацыйныя формы асноўнага звяна рабочай дэмакратыі ў нашай сацыялістычнай сістэме кіравання» (...) «...рабочае самакіраванне адыграла выдатную ролю ў развіцці народнай гаспадаркі і фармаванні сацыялістычных суадносін паміж людзьмі, як трывалая і замацаваная форма ўдзелу калектываў у супольным кіраванні прадпрыемствамі».

### VIII ПЛЕНАРНАЕ

Адбылося VIII пленарнае пасяджэнне Галоўнага Камітэта ЗСЛь. У цэнтры ўвагі ўдзельнікаў пленума знайшліся перш за ўсё справы, якія датычаць паглыблення ідэйна-выхаваўчай дзейнасці, навязання ў гэтай дзейнасці да рэвалюцыйных традыцый народнага руху, умацоўвання патрыятызму і пачуцця супольнай адказнасці за справу сацыялістычнага будаўніцтва ў краіне і поўнага ўключэння ў рэалізацыю задач, вынікаючых з плана гаспадарчага і культурнага развіцця вёскі.

Пленарнае пасяджэнне Галоўнага Камітэта прыняло пастанову аб скліканні 29 сакавіка наступнага года V Кангрэса ЗСЛь, зацвердзіла яго парадак, а таксама сістэму выбараў дэлегатаў кангрэса. (с.я)

##  ВАЯВОДСТВА

### ФРОНТ АДЗІНСТВА НАРОДА

Нядаўна адбылася нарада, якую склікаў Ваяводскі камітэт Фронту адзінства народа. У нарадзе прынялі ўдзел старшыні і сакратары павятовых камітэтаў ФАН, а таксама яго актывісты. Абмяркоўвалі яны заданні, якія для гэтай арганізацыі вынікаюць з пастаноў V з'езда партыі, і апрацавалі праграму святкавання 25-ай гадавіны Польскай Народнай Рэспублікі. Нарадай кіраваў пасол Сейма і старшыня Ваяводскага камітэта ФАН Станіслаў Юхніцкі. Пры нагодзе прыпамінаем, што Беларускае грамадска-культурнае таварыства з'яўляецца членам Фронту адзінства народа.

### ПРА БЕЛАВЕЖСКУЮ ПУШЧУ

У Белавежы сабралася навуковая рада Белавежскага нацыянальнага парку. Нарада працавала два дні. Прынялі ў ёй удзел выдатныя спецыялісты па ахове прыроды з Галоўнай школы сельскай гаспадаркі і навуковых устаноў Белавежскага нацыянальнага парку. Абмяркоўвалі яны праблемы турыстычнага руху па Белавежскай пушчы і шмат іншых спраў, якія адносяцца да Белавежскага нацыянальнага парку і яго прыроды.

### МЕХАНІЗАЦЫЯ

На працягу апошніх 10-ці год у Беластоцкім ваяводстве было заснавана амаль 2500 сельскагаспадарчых гурткоў, якія аб'ядноўваюць звыш 75 тысяч гаспадароў. У іх распараджэнні знаходзіцца зараз звыш 3400 машына-трактарных камплектаў, 2 тысячы абмалотачных агрэгатаў і 25 тысяч сеўнікаў. У апошнія гады, у выніку канцэнтрацыі сельскагаспадарчай тэхнікі, пабудавана 77 машына-трактарных міжгурткоўскіх баз. Вартасць працы, якую гуртжоўцы выканалі сваімі машынамі ў апошнім годзе, ацэніваюць на 174 мільёны зл.

### ЗУБР У БЕЛАСТОКУ

Беласток мае ўласны невялічкі заапарк, які знаходзіцца ў гарадскім лесе, званым Звярынцам. Дырэкцыя Белавежскага нацыянальнага парку вырашыла падарыць беластоцкаму заапарку аднаго зубра. Цяпер не трэба будзе выбірацца на экскурсію ў Белавежу, каб пабачыць «караля пушчы».

### БЕРАЗОЎСКІ КЛУБ

За актыўную і разнастайную дзейнасць вясковы клуб «Руху» ў Старым Беразове атрымаў у апошнім часе аж дзве ўзнагароды па 10 тысяч злотых кожная. Узнагароды для клуба прызналі Цэнтральная і Ваяводская камісіі па спаборніцтве вясковых клубаў.

### КІНО Ў ДУБРОВЕ

Дуброва Беластоцкая ўрэшце атрымала сапраўднае па-сучаснаму абсталяванае кіно, у якім аднаразова можа змясціцца 200 чалавек. Дуброўскае кіно прыстасавана для дэманстрацыі шыроказкранных фільмаў. Урачыстасць перадачы ў карыстанне новапабудаванага кіно адбылася ў Дуброве 17 снежня 1968 года. (вр)




**Niedziela, 29.XII.**

9.00 Program dnia. 9.05 „Przypominamy, radzimy". 9.15 PKF. 9.30 „Starorosyjska sztuka w Muzeum Narodowym" (Leningrad). 10.00 Dla młodych widzów: „Pozdrowienia od przyjaciół" — koncert dziecięcych chórów i zespołów baletowych (Moskwa). 11.05 „Hasło" — film TVP („Stawka większa niż życie"). 12.00 Dziennik. 12.10 „Melodie na dzień dobry". 12.30 „Teleferie". 12.50 „Okularnik" — film pol. 13.05 „Świat Woostera" — film ang. 13.35 „Muzyka — wspólny język narodów". 14.15 „Jeszcze raz Flip i Flap" — film archiwalny. 15.15 „Przemiany". 15.50 Dla dzieci: „Obrazki z wystawy" — widowisko baletowe. 16.30 „V-2" — film („Polacy na frontach II Wojny Światowej"). 17.10 Recital Bolesława Gromnickiego. 17.40 „Zaginione witraże" — rep. film. 18.10 „Usziko" — opera. 18.45 Film. 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.05 „Rancho w dolinie" — film fab. USA. 21.40 „Niedziela Sportowa". 22.00 „Wojciecha Bogusławskiego mimika czyli nauka sztuki scenicznej".

**Poniedziałek, 30.XII.**

15.35 Program dnia. 15.40 i 22.15 Politechnika TV, kurs przygotowawczy. 16.45 Dziennik. 16.55 „Teleferie". 18.00 „Spadkobiercy Pana Michała" („Medale i detale"). 18.15 „Spacerkiem po kinach". 18.45 TV Magazyn Postępu Technicznego. 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.05 Teatr TV. M. Frish: „Szewska pasja Filipa Hotza". 20.55 „Panorama Literacka". 21.25 Filmowy program rozrywkowy. 21.50 Dziennik.

**Wtorek, 31.XII.**

9.00 „Teleferie". 9.50 „Latający rower" — film fab. ang. 10.50 Przerwa. 15.55 Program dnia. 16.00 „Teleferie". 17.20 Dziennik. 17.30 Film rozrywkowy. 18.00 „Zielone światło" — film fab. radz. 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.00 Przemówienie Noworoczne. 20.15 Koncert muzyki polskiej. 20.45 „Słomiany wdowiec" — film fab. USA. 22.25 „Spotkanie z cieniem" — „Dawne bale..." Scenariusz i prowadzenie — J. Waldorff. 23.20 „Kulig" — film TVP. 23.55 Życzenia Noworoczne. 0.05 „Podług dawnego zwyczaju" program rozrywkowy. 1.20 Filmowy program rozrywkowy.

**Sroda, 1.I.**

8.50 Program dnia. 8.55 „Trzy światy Guliwera" — film fab. USA. 10.30 PKF. 10.50 „Teleferie". 11.10 „Sport 68". 12.15 „Walce wiedeńskie" (Wiedeń). 13.30 Dziennik. 13.45 TV Kurier Warszawski. 14.00 „My 69" — teleturniej. 15.00 „Wierni przyjaźni" — rep. film. („Charaktery"). 15.10 Dla dzieci: Estrada Poetycka — „Co się zdarzyło w niedzielę". 15.40 „Pragnienie życia" — rep. film. („Charaktery"). 15.50 „Klub Sześciu Kontynentów". 16.35 „Dialog o miłości" — rep. film. („Charaktery"). 16.45 Studio 63: „Noworoczne Telepatrzydło Pana Prusa". 17.45 „Pasja" — rep. film. („Charaktery"). 17.55 „Kulig" — film TVP. 18.25 „Serce" — rep film. („Charaktery"). 18.35 „Świat 68". 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.05 „Garbus" film fab. fr.-wł. 21.45 „Porażka idola" — rep. film. („Charaktery"). 21.55 „Giełda Giełd". 22.35 Dziennik TV i Wiadomości sportowe. 22.50 „Sport 68".

**Czwartek, 2.I.**

9.00 „Teleferie". 9.50 „Dziki pies Dingo" — film fab. radz. 11.25 Przerwa. 15.55 Program dnia. 16.00 „Teleferie". 17.05 Dziennik. 17.15 „Telekram". 17.25 Program filmowy. 17.40 Przemówienie Ambasadora Republiki Kuby. 17.55 „Bryza". 18.20 „Kronika 50-lecia Kraju Rad — rok 1929". 18.45 „Pastorałka" — Reż. — W. Siemion. 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.05 „Horyzonty" — mag. gospodarczy. 20.35 „Zdrada" — film TVP („Stawka większa niż życie"). 21.40 „Magazyn Medyczny". 22.10 Dziennik.

**Piątek, 3.I.**

9.00 „Teleferie". 9.50 „Zdrada" — film TVP („Stawka większa niż życie"). 10.55 Przerwa. 15.30 Program dnia. 15.35 i 22.35 Politechnika TV I roku. 16.35 Dziennik. 16.45 „Teleferie". 17.55 TV Kurier Mazowiecki. 18.10 „Małżeństwo nowoczesne". 18.40 „Sylwetka karykaturzysty" — Lech Zahorski. 19.00 „Rozmowy o książkach". 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.05 „Fundament" — program publ. 20.25 „Bettly" — opera komiczna St. Moniuszki. (Wrocław). 21.20 Wszechnica TV: „Rok 2000". 21.50 „Wystrzał" — nowela filmowa franc. 22.15 Dziennik.

**Sobota, 4.I.**

9.00 „Teleferie". 9.55 „Poste Restante" — film fab. rum. 11.30 Przerwa. 15.20 Program dnia. 15.25 TV Kurs Rolniczy: „Metody upraszczania produkcji w gospodarstwach rolnych". 16.00 „Teleferie". 17.15 Program tygodnia. 17.30 Dziennik. 17.40 „Spotkania z przyrodą". 18.10 „Warszawa, ja i Ty". 18.40 „Czingiz Ajmatow" — film radz. 19.00 „Wieczorne rozmowy". 19.20 „Dobranoc". 19.30 „Monitor". 20.10 „Pegaz". 20.55 „Przy sobocie po robocie" — program estradowy. 21.55 Dziennik. 22.10 Wiadomości sportowe. 22.20 „Tam, gdzie rosną poziomki" — film fab. szw. (Kino Interesujących Filmów).

 




### Рэчы з белай бляхі

Каб рэчы з белай бляхі не пакрываліся іржой, іх яшчэ новыя трэба нацерці тлушчам і нагрэць на печцы.

### Свежыя плямы іржы

Свежыя плямы іржы лёгка можна зняць кавалкам корка, змочанага ў алеі або газе. Металічныя рэчы тонкай работы можна чысціць парафінам.



## КУЛІНАРЫЯ

### Свініна запечаная ў духоўцы

Узяць 2 кг мякаці свініны ад шынкі. Памыць, пасаліць і пасыпаць чорным молатым перцам. Змазаць мяса маслам і пакласці на бляху, наліўшы крыху вады і паклаўшы кавалак сметанковага масла. Запякаць у духоўцы на працягу 20 мінут з аднаго боку, затым столькі ж часу з другога, час ад часу паліваючы мяса соусам, пакуль яно не падрумяніцца. Пасля таго, як яно астыне, нарэзаць яго лустачкамі, гарніраваць кавалачкамі салёнага агурка і чырвоным стручковым перцам.




### Электрычнае поле — крыніца бадзёрасці

Заўважана, што калі чалавек працяглы час знаходзіцца ў аўтамабілі або самалёце, у яго з'яўляецца санлівасць, траціцца апетыт, зніжаецца працаздольнасць. Чаму гэта адбываецца? Доследы, праведзены над жывёламі і людзьмі, даюць магчымасць зрабіць вывад аб тым, што на самаадчуванне і настрой чалавека вялікі ўплыў робіць велічыня навакольнага электрычнага поля. У кабінах аўтамабіляў і салонах самалётаў напружанасць электрычнага поля значна меншая, чым у навакольнай прасторы, — яго зніжае металічная абшыўка машын.

Даследчыкі паспрабавалі штучна павялічваць напружанасць электрычнага поля ў металічнай клетцы, дзе знаходзіліся паддоследныя жывёлы. Спецыяльны генератар стварыў унутры клеткі электрычнае поле, якое адпавядае нармальнаму полю Зямлі. У выніку жыццёвы тонус жывёл значна павышаўся. Аналагічныя вынікі атрыманы і пры доследах з людзьмі.

У некаторых краінах пачынаюць выраб спецыяльных генератараў, якія будуць ствараць патрэбнае электрычнае поле ў аўтамабілях і самалётах. Мяркуецца, што з іх дапамогай удасца павысіць працаздольнасць шафёраў і лётчыкаў і палепшыць самаадчуванне пасажыраў.




### Эакк спыняе кроў

Ёсць такая хвароба — незгусанне крыві. Чалавек нармальна жыве і працуе, аднак любое раненне, любая драпіна можа стаць для яго смяротна небяспечнай. Суняць кроў у яго звычайнымі сродкамі немагчыма. Для гэтага ўжываюць розныя спецыяльныя прэпараты. Адзін з самых эфектыўных з іх — фібрынаген, які створан у Кіеўскім інстытуце пералівання крыві.

А зусім нядаўна ў яго з'явіўся канкурэнт. Гэты прэпарат з доўгай назвай — эпсілонамінакапронавая кіслата (ЭАКК) пачалі выпускаць на Кіеўскім хіміка-фармацэўтычным заводзе. Самае цікавае, што рэчыва гэта хімікі атрымалі яшчэ ў 1892 годзе. Аднак толькі больш як праз шэсць дзесяцігоддзяў людзі даведаліся пра яго выдатныя якасці. Прэпарат не мае сабе роўных. Ён спыняе кровацячэнне нават у самых цяжкіх выпадках.

## МАЛА, АЛЕ ЦІКАВА

### Штучныя слёзы

У парыжскіх магазінах з'явіліся ў продажы насоўкі, прамочаныя асобым рэчывам, якое выклікае слёзы. Такія насоўкі купляюць тыя, хто прысутнічае на пахаваннях багатых сваякоў і чакае наведвання падатковых інспектараў...




Мінула пяць год, як прэзідэнт Злучаных Штатаў Джон Ф. Кенэдзі трапіў у засаду і быў забіты.

Ад таго часу ў Штатах забіты яшчэ трое вялікіх людзей. Але мы яшчэ не ведаем праўды аб забойстве Джона Кенэдзі. Ёсць дваццаць шэсць томаў справаздачы славутай Камісіі Уорэна, прыгожа апублікаванай, з салодкімі праўдамі, у якія не верыць ужо 81 працэнт амерыканцаў. У гадавіну смерці прэзідэнта студэнты прыслалі вянок з наступным надпісам: **«Не давайце яму кветак, дайце нам праўду».**

Ад месяца лютага мінулага года ак-




руговы пракурор Нью-Арлеана Джым Герысан, выступіў з сенсацыйнымі заявамі аб існаванні змовы на жыццё прэзідэнта Кенэдзі. Герысан сабраў дастатковыя доказы, на падставе якіх суддзі паставілі ў стан абвінавачання за ўдзел у змове арлеанскага бізнесмена Клейя Шоў, аб якім Камісія Уорэна ўвогуле не ўпамянула.

Разам з тым адбылося шмат дзіўных, на першы погляд мала зразумелых, фактаў. Ад 1963 года — года смерці Кенэдзі — з ліку 47 асоб, маючых дачыненне з гэтым забойствам, 35 ужо страціла жыццё ўневерагодных абставінах.

Напрыклад, два рэпарцёры, якія сустрэліся з Джэкам Рубі напярэдадні забойства ім Освальда, загінулі раптоўнай смерцю: адзін у камісарыяце паліцыі ў Каліфорніі, другога знайшлі мёртвым у лазенцы сваёй кватэры, у Далас. Падобным чынам загінулі дзве стрыпціскі, якія выступалі ў начным клубе Джэка Рубі: адна была застрэлена, другую знайшлі павешанай у турэмнай камеры даласкай турмы, дзе апынулася яна пасля малаважнага арышту. Фельетаністка Д. Кілгален (адзіны журналіст, якому ўдалося правесці сакрэтнае інтэрв'ю з Джэкам Рубі падчас ягонага судовага працэсу) была знойдзена мёртвай у яе нью-йоркскай кватэры пасля таго, калі сказала сваім сябрам, што выязджае ў Вашынгтон, каб «выявіць праўду аб усёй гэтай справе». Адзін агент Цэнтральнага разведвальнага ўпраўлення (ЦРУ), які заявіў сябрам, што не можа больш маўчаць аб забойстве прэзідэнта, загінуў у сваёй кватэры ад выстралу ў спіну. Лётчыка Дэвіда Фэры знайшлі мёртвага ў яго кватэры ў Нью-Арлеане. Чатыры дні перад тым Фэры сказаў журналістам, што пракурор Джым Герысан «прыціснуў яго да сцяны як лётчыка, якога заданнем было арганізаванне ўцёку ўдзельнікаў падрабязна падрыхтаванай змовы на жыццё Кенэдзі».

На тэму самых падзей таго трагічнага дня ў Далас вядома ўжо досыць многа. Не хапае аднак ясных адказаў на шматлікія пытанні крытыкаў справаздачы Уорэна, як і яго абаронцаў. Перш за ўсё, чаму праслухана так мала сведкаў падзей? Чаму не апублікаваны ўсе матэрыялы следства?

Лекар, які даследваў цела прэзідэнта, сцвердзіў, што куля прабіла горла спераду, а потым раптам пачаў гаварыць адваротнае, згоднае з «фактамі» Уорэна. Галоўны паталаг, які правёў візію, спаліў чарнавік сваёй першай справаздачы. Чаму так зрабіў ён?

Пытанняў надта шмат. Не так даўно пракурор Герысан заявіў:

«Калектыў забойцаў складаўся з фанатычных антыкастраўскіх кубінцаў і членаў парамілітарных арганізацый крайняй рэакцыі. Зараз даследуем іх сувязі з функцыянерамі Цэнтральнага разведвальнага агенцтва. Прашу не здзіўляцца; прашу толькі прыпомніць сабе замежную дзейнасць таго агенцтва, справу Плайя Гірон, інцыдэнты з У-2... Джон Кенэдзі дзейнічаў дзеля мірнага ўладкавання з Кастрам і цэлым камуністычным светам. Ён думаў над тым, каб у будучыні выступіць з В'етнама. Хацеў усё змяніць. Трэба было яго ліквідаваць». (а-ся)

### НА БЛІЗКІМ УСХОДЗЕ



**Узрастаючыя правакацыі Ізраіля пераконваюць апінію арабскіх краін, што адзіным шляхам вызвалення захопленых земляў з'яўляецца збройная барацьба.**

## Чвэрць стагоддзя назад




Не ўсё аднак ішло гладка. У канцы лістапада даведаліся мы, што ў Нурэцкіх лясах, на паграніччы сённяшніх Гайнаўскага і Сямяціцкага паветаў, дзейнічае пад камандваннем сяржанта Якуба Канстанцінавіча Калеснікава (загінуў у чэрвені 1944 г. каля вёскі Такары) партызанскі атрад імя Чкалава. Дайшлі да нас таксама звесткі, што ў гэтых жа лясах ёсць і невядомыя нам польскія партызаны. Я не меў тады паняцця ні аб Арміі краёвай, ні аб Нарадовых сілах збройных. Вырашылі мы наладзіць сувязь з гэтымі атрадамі. Хацеў ісці на сувязь я, але Нячаеў катэгарычна заявіў:

— Ты не пойдзеш, у цябе іншае заданне: Бельск—Беласток.

Вырашылі: пойдзе лейтэнант Новікаў і мясцовы партызан Мікалай Раманюк. Вызначылі Раманюка таму, што звесткі аб атрадах атрыманы былі ад яго сваяка, які жыў на хутары Харашчэва. Яго ноччу наведвалі і польскія і савецкія партызаны. Жыў ён пад лесам.

Я рушыў у напрамку Бельска другога снежня. У Бельск я не паехаў, было вельмі рызыкоўна, маглі мяне ў кожную хвіліну пазнаць. З заданнем да Барташука выслаў я даверанага сувязнога Алеся Мусько з Дубна. Трэцяга снежня 1943 г. у напрамку Харашчэва вырушылі Новікаў і Раманюк. На світанні пятага снежня дайшлі яны да вызначанага хутара. Гэтага ж дня вечарам вывелі іх з хутара. Праўдападобна, была гэта баёўка НСЗ. Яна адабрала нашым аўтаматы, раздзела іх да бялізны і расстраляла пад клуняй. Там і былі закапаны. Шукалі дружбы — знайшлі смерць.

Целы іх ноччу былі перавезены ў вёску Шашылы і пахаваны на мясцовым могільніку. Упершыню атрад наш пагрузіўся ў жалобу.

Чацвёртага снежня 1943 года пасля абеду высокі пахілены мужчына выйшаў з Бельска і накіраваўся ў бок вёскі Аўгустова. Калі адышоў ён ад горада нейкіх паўкіламетра, з Бельска выйшаў другі мужчына. Ішоў ён за першым. Праз гадзіну першы мужчына ўвайшоў у вёску Аўгустова, прайшоў праз яе амаль у канец, агледзеўся, павярнуў на панадворак і ўвайшоў у хату. Другі дайшоў да паловы вёскі, дзе стаяла крама, увайшоў у краму, купіў пачку папяросаў «Бяля», хвіліну пагутарыў з прадаўшчыком, потым выйшаў і паволі пайшоў назад у напрамку Бельска.

Рыгор Бусловіч, жыхар вёскі Аўгустова, сядзеў у сваёй хаце за сталом і вострым нажом драбнютка рэзаў скручанае ў рулон лісце тытуню. Нехта пастукаў у дзверы.

— Калі ласка! — адказаў.

У пакой увайшоў высокі пахілены мужчына.

— Здравствуйте! — прывітаўся з гаспадаром.

— Здраствуйце, — адказаў гаспадар.

— Ці тут жыве таварыш Бусловіч? — спытаўся незнаёмы. — Я — Косця, прыходжу ад Данілы з Бельска, хацеў бы сустрэцца з маім сваяком.

— Калі ласка, праходзьце ў другі пакой.

Увайшоў. Я ўстаў, каб яго прывітаць.

— Широка страна моя родная, а друзья везде, — сказаў Косця.

— В ней так вольно дышет человек, — адказаў я. Быў гэта ўмоўлены знак.

З Косцем правёў я даўжэйшую размову. Называўся ён Канстанцін Крыўцоў. Меў вышэйшую адукацыю і чын камісара батальёна. Служыў у палітупраўленні арміі, якою камандваў генерал Уласаў. Пасля здрады Уласава ўцёк з транспарту, які ішоў на захад і апынуўся ў Бельску. Хварэў на туберкулёз, не мог ісці ў лес. Як мог, на ўласную руку, шкодзіў немцам. Шукаў кантактаў з падполлем, але не мог натрапіць на нейкі след. Анну Забалотную сустрэў, як тая выйшла з турмы. Яна таксама была без кантактаў. З увагі на хваробу не мог працаваць. Утрымлівала яго Забалотная, якая жыла з часовай працы, прыбіраючы чужыя кватэры. У сапраўднасці абое жылі з міласціны.

Косця ахвотна згадзіўся супрацоўнічаць з намі. Я перадаў яму на ўтрыманне пэўную суму нямецкіх марак і адпаведнае даручэнне ў справе Фалькоўскай і гестапаўца Віта.

Чалавекам, які ішоў за Косцем, быў Аляксандр Баравой. Ён атрымаў заданне ад Барташука сачыць за Косцем аж да вёскі Аўгустова.

Атрад імя Пархоменкі разгортваў сваю дзейнасць. Спаліў будынкі маёнтка Кнарыды, які адміністравалі немцы, зрэзаў дзесяткі тэлефанічных слупоў паміж Кляшчэлямі і Мілейчыцамі. Ад-



 

# ТРЫБУНА чытачоў

## ПІШАМ УСПАМІНЫ

Жывем 50 год пасля Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі. Яшчэ за паўстагоддзя нас ужо не будзе. А нашае месца зоймуць тыя, што цяпер з'яўляюцца пацехамі сваіх бацькоў. Усё менш застаецца 80—90-гадовых, якія памятаюць сумныя гады царызму, ганебнае заканчэнне вайны з Японіяй, няўдачную рэвалюцыю 1905 года, а таксама вайну з немцамі ў 14-цатым годзе і нават апошнюю вайну, якая закончылася поўнай капітуляцыяй Германіі.

Праз прызму гіганцкага будаўніцтва народнай Польшчы, яе буйнага палітычнага, сацыяльнага, культурнага і гаспадарчага жыцця, мы як бы не заўважаем той аграмаднай розніцы паміж калішнім і цяперашнім. Возьмем прыклад жыцця ў вёсцы: я добра памятаю, калі зямлю аралі дзеравянымі сохамі. Не было вазоў на жалезных колах, не гаворачы ўжо аб гумавіках. Не было касярак, малацілак, камбайнаў. Шмат чаго можна знайсці ў літаратуры, але было б вельмі добра, каб самі сяляне пісалі свае ўспаміны з перажытага. Цяпер яшчэ амаль у кожнай вёсцы можна знайсці старога чалавека, які калі б апісаў сваё жыццё, даў бы цікавы вобраз перамен. Трэба, па-мойму, толькі абудзіцца з драмоты, у якой часта старэйшыя людзі знаходзяцца. Мне здаецца, што ініцыятыву павінна падаць рэдакцыя «Нівы», а далейшую працу ў тым жа напрамку прымуць на сябе ўсе вясковыя арганізацыі. Верце мне, гэта варта захаду.

**Нестар Перавой**

**Ад рэдакцыі:**

Апублікаванне гэтага пісьма з'яўляецца нашай падтрымкай ініцыятывы Н. Перавоя. Чакаем ўспамінаў, дзённікаў. Пісаць ёсць аб чым.

## НОВЫ ГУРТОК

7 снежня моладзь вёскі Катлы арганізавала гурток Саюза сялянскай моладзі. На сход прыехаў прадстаўнік павятовага бельскага аддзела Саюза сялянскай моладзі.

У вёсцы моладзі ёсць многа. Большасць з іх вучыцца ў сярэдніх школах. Некаторыя ўжо закончылі сярэднія школы і на працу даязджаюць. Імкненне вучыцца — гэта характэрная рыса моладзі з вёскі Катлы. За дзесяць гадоў з пачатковай школы ў Катлах толькі тры вучні засталіся дома, на гаспадарцы. Але і тыя скончылі сельскагаспадарчыя курсы.

На арганізацыйным сходзе ССМ у гурток уступіла трынаццаць асоб. У праўленне гуртка моладзь выбрала Мікалая Сахарчука, Мікалая Пацэвіча і Аляксея Навумчука. Хлопцы гэтыя карыстаюцца ў асяроддзі пашанай як культурныя і працавітыя.

**К. С.**
Катлы

---

крытых баёў з немцамі пазбягаў, было гэта ў нашым інтарэсе.

У часе пабыўкі ў Бельску даведаўся я ад Барташука, што ў акалічных вёсках скрываецца пятнаццаціасабовая група савецкіх палонных. Быў пачатак зімы, скрывацца было штораз цяжэй. Я параіў Барташуку паклапаціцца, каб да гэтых людзей дайшла вестка, што ў раёне Боцек дзейнічае нейкі партызанскі атрад, што звязацца з ім можна праз жыхароў Нурца, Шашыл і Снежак, што могуць нейкі час хавацца ў аколіцах Волькі, на багнах, дзе шмат стагоў. Папрасіў я таксама Барташука, каб выявіў і перадаў нам прозвішчы правадыроў гэтай групы.

Даслоўна праз два дні пасля майго вяртання з Бельска ў Тарлецкіх у Дубне была ўжо інфармацыя аб гэтай групе з далучаным спіскам прозвішчаў. А на трэці дзень на багнах з'явілася група. Вырашылі мы ўключыць іх у атрад імя Пархоменкі: у зямлянцы было дастаткова месца. Атрад павялічыўся да дваццаці сямі асоб. Сярод новапрынятых былі два савецкія афіцэры. Абое сапёры. Адзін з іх называўся Іван Целяхаў.

Пад іх кіраўніцтвам арганізавалі мы дыверсійную групу. Снарадаў і мін было ў аколіцы поўна.

Неўзабаве нямецкі цягнік пайшоў пад адхон.

**Ян Анацік**

## ЛІКВІДУЕЦЦА ХМЫЗНЯК

У адлегласці двух кіламетраў ад вёскі Дубічы Царкоўныя ёсць урочышча Жалудок, дзе такія зараслі, што «камар носа не ўсадзіць». Гэтыя хмызнякі -зараслі займаюць 33 гектары. Для вёскі дагэтуль гэты Жалудок амаль ніякай карысці не даваў. У карчах ніхто не пас кароў ці авечак, таму што там гушчар, а месцамі балота.

Нядаўна ў вёсцы адбыўся сход, на якім старшыня мясцовага прэзідыума ГРН Мікалай Чыквін падсунуў жыхарам вёскі думку аб гэтым, каб гэты Жалудок цалкам выкарчаваць і на другое лета тут правясці меліярацыю, а пасля выараць трактарамі, засеяць травой, а пазней гэтых жа 33 га падзяліць паміж гаспадарамі вёскі. Усе прысутныя на сходзе горача падтрымалі ініцыятыву старшыні і адразу была выбрана камісія ў гэтай справе, якая мела б наглядаць за работай, а таксама запісваць прысутнасць кожнага гаспадара ў карчаванні.

І вось ужо каля месяца часу работа кіпіць у Жалудку. Штодзень сюды прыязджае да працы каля 40—50 фурманак. Выкарчаванае дрэва кожны збірае сабе. І хутка ўжо месца гэта будзе выкарчавана цалкам, і вёска за нейкі час будзе намнога багацейшая сенам.

**М. Панфілюк**
Дубічы Царкоўныя

**Весткі з Патокі**

## ГРАМАДСКАЯ ДАПАМОГА

Вялікую дапамогу пакрыўджаным лёсам людзям прыносіць камітэт грамадскай дапамогі. Дапамога гэтая праяўляецца ў бясплатных прыдзелах адзежы, абутку і харчоў. На пачатку снежня такую дапамогу атрымаў грамадзянін з вёскі Патока Іван Кананчук. Атрымаў ён касцюм, якога ніколі ў жыцці не меў. Вартасць гэтай аднаразовай грамадскай дапамогі перавысіла 2000 зл.

## ПАЛЯВАННЕ

Адно з уданых паляванняў адбылося на пачатку снежня на палях вёскі Патока ў Беластоцкім павеце. Прынялі ў ім удзел 15 паляўнічых. Застрэлілі тады 97 зайцаў. Рэкардзістам палявання аказаўся жыхар вёскі Жыўкова Васіль Вайткоўскі, які застрэліў 10 зайцаў.

**Мікола Краўчук**
Патока

## Сардэчныя тайны

**Дарагое Сэрцайка!**

Маю 20 год. Жыву на вёсцы пры бацьках. Даязджаю да працы ў горад.

Аднойчы, будучы на забаве ў сваёй вёсцы, я пазнаёмілася з Алікам з суседняй вёскі. Мы танцавалі з ім цэлы вечар. Пад канец забавы я сказала Аліку, што выйду на некалькі хвілін і вярнуся. Я выйшла і хуценька пабегла дамоў. Зрабіла гэта таму, што мне Алік не падабаўся. Праз тыдзень я атрымала ад яго пісьмо, якое мяне вельмі здзівіла. Алік пісаў, што адрас падаў яму сябар з нашай вёскі, у якога быў у той вечар у гасцях. Піша, што я яму вельмі спадабалася, што хацеў бы са мной бліжэй пазнаёміцца і што прыедзе ў нашую вёску зноў, каб адведаць мяне. Просіць, каб я яму адпісала.

Парай, дарагое Сэрцайка, ці напісаць пісьмо, ці нават не зазарочваць сабе галавы. Бо мне ж Алік зусім не падабаецца і не магу сабе ўявіць нашага сяброўства. А мо пачакаць пару год, мо знойдзецца такі, якога пакахаю?

**Лілька**

Дарагая Лілька! Веру, што яшчэ сустрэнеш хлапца, якога пакахаеш. Таму не варта спяшацца, не варта заварочваць галаву хлопцу і ашукваць яго. Таму раю табе або зусім не адпісваць — гэта Алік зразумее як адказ, што «не», або адпісаць і выявіць яму праўду. Толькі пісьмо такое павінна быць ветлівае і далікатнае. Гэта вельмі важна і для цябе і для яго.

**Сэрцайка**

## БЯЗДУШНЫ КАНДУКТАР

Гэта было 3 снежня г. г. Едучы ПКС-ам а гадзіне сёмай з Нараўкі да Гайнаўкі, я была сведкам вось якой сцэнкі.

На прыпынку ў вёсцы Скупава ПКС затрымаўся. Было там толькі трох чалавек. Кандуктар заявіў, што забярэ асоб толькі з месячнымі білетамі. Падышла да яго жанчына з пісулькай у руках і просіць, каб яе таксама забраў, таму што яна едзе ў грамадскіх справах на пасяджэнне прэзідыума адной з арганізацый. Кандуктар, пхаючы яе ў грудзі, кажа: «Што мне да таго, што ты маеш павестку на нейкае там пасяджэнне?» Жанчына была даволі ўпартая і стаяла на сваім. «Я мушу ехаць», — цвёрда гаварыла яна. Са злосцю і крыкам упусціў кандуктар яе ў ПКС. Яна села, бо былі яшчэ вольныя месцы. А ён прадаўжаў яе спавядаць за тое, што яна сабе спала і не хацела ехаць рана ПКС-ам у 5 гадзін, а ён ужо ад трэцяй на нагах і мусіць ездзіць. Калі яна атрымала білет, то ўжо адважней сказала: «За тое, што вы рана ўстаеце, вам плацяць. А мне за грамадскую працу ніхто не плаціць».

На наступных прыпынках увайшло шмат вучняў, але яны пайшлі ў канец аўтобуса да сваіх сяброў і там стаялі. А спераду былі вольныя месцы.

Я сядзела і абдумвала гэту справу.

Гэтая жанчына працуе грамадска. Едзе ў справах свайго асяроддзя і мусіць страціць на гэта цэлы дзень. Яна не па сваёй справе ж едзе. Дзіўна, што ёсць у нас людзі такія бяздушныя, людзі, якія зусім не разумеюць жыцця і патрэб. І як дрэнна, што гэтакія людзі спатыкаюцца сярод кандуктараў.

**Крапіўка**
з-пад Нараўкі

**З жыцця школы ў Леўках**

## УРАТАВАЛІ ЦЯГНІК

28 кастрычніка вучні пачатковай школы ў Леўках (Бельскі павет) заўважылі на чыгунцы шчыліну ў рэйцы. Вырашылі як найхутчэй паведаміць дзяжурнага руху на станцыі ў Леўках. Часу было вельмі мала. За некалькі мінут меў праязджаць цягнік. Адны асталіся пры рэйцы, а другія, колькі хапіла сілы, пабеглі да дзяжурнага руху.

«А можа ён паспее папярэдзіць тэлефанічна на суседні прыпынак», думалі вучні. Але было ўжо позна. Было ўжо відаць, што цягнік едзе. Вучні, якія былі пры трэснутай рэйцы, паздымалі вопраткі і пачалі ёю махаць і крычаць аб небяспецы. Але машыніст не рэагаваў на сігналы дзяцей. І толькі тады, калі ўбачыў бягучага разам са школьнікамі дзяжурнага руху, затрымаў цягнік перад самай папсаванай рэйкай. Так школьнікі з Левак уратавалі цягнік ад катастрофы, уратавалі людзей, якія ехалі ў гэтым цягніку. Было гэто 28 кастрычніка 1968 года.

## СПАТКАННЕ З ПАЭТАМ

На пачатку снежня школьнікі з Левак спаткаліся з паэтам Віктарам Шведам. Чытаў ён вучням свае вершы. Многія дзеці ў гэты дзень набылі кніжачку твораў паэта «Жыццёвыя сцежкі».

## ДЗЕНЬ ШАХЦЁРА

Дзень шахцёра ў школе ў Леўках адзначаўся акадэміяй і дэкламацыяй вершаў, прысвечаных гэтаму святу. Школа выслала да шахцёраў Шлёнска віншавальны ліст.

**Ялянта Часноўская**
Леўкі

## ПРЫСЯГА

Ад гэтага навучальнага года ўсе першакласнікі ў ліцэях складаюць прысягу на вернасць айчыне і абавязваюцца добра выконваць абавязкі вучняў сярэдняй школы.

Першага снежня ў агульнаадукацыйным ліцэі імя Тадэуша Касцюшкі ў Бельску Падляшскім адбылася вялікая ўрачыстасць. Усе 121 вучняў, якія ў гэтым навучальным годзе распачалі вучобу, складалі прысягу. Прысягу прымаў найстарэйшы настаўнік Віктар Баброўскі. На гэтую ўрачыстасць былі запрошаны таксама бацькі школьнікаў. Мастацкая частка, падрыхтаваная з нагоды першага такога школьнага свята, усім вельмі спадабалася. Выступалі дэкламатары і школьны хор.

**Ч. І.**
Бельск Падляшскі

## ЗЛАДЗЕІ

Вучні з вёсак Скупава, Бярнацкі Мост і Барысаўка, якія вучацца ў сярэдніх школах у Гайнаўцы, да прыстанка Гнілец едуць веласіпедамі. Там ставяць іх на падворку аднаго гаспадара, а да Гайнаўкі едуць цягніком. І вось бяда! Часта прыходзіцца цягнуць веласіпед некалькі кіламетраў да дому. А вось што за прычына. Невядомы «хтосьці» падбірае часткі ад веласіпедаў, папросту, крадзе. Амаль кожны вучань пакрыўджаны. Паадкручваны дынамкі, ліхтары, званкі, а што ўжо гаварыць пра помпкі і ключы, якія гінуць заўсёды. Гэтыя вучні часта і вечарам вяртаюцца са школы і няма святла, а трэба ехаць лесам некалькі кіламетраў. Новае святло купляць не аплочваецца, бо толькі на некалькі дзён, пакуль не ўкрадуць. Трэба даўно ўжо, каб гэтай справай зацікавілася міліцыя і пакарала зладзеяў.

**Крапіўка**
з-пад Нараўкі

# КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**

„Wielki skok" (franc.), 31.XII—1.I. „Żenia, Żenieczka, katiusza" (radz.), 2—3.I. „Paryż — Warszawa bez wizy" (polski), 4—5.I.

**Дубіны**

„Byłam głupią dziewczyną" (węgierski), „Przed wojną" (jugosł.). 4—5.I.

**Нараўка**

„Sobótki" (polski), „Ach ci młodzi" (węgierski), 1—5.I.

**Нарва**

„Sabrina" (USA), „Największe widowisko świata" (USA), 1—5.I.

**Чыжы**

„Droga nad morzem" (bułg.), „Faraon" (polski), 1—5.I.

**Дубічы Царкоўныя**

„Jak się masz Vero" (węgierski), „Pamiętnik pani doktór" (franc.), 1—5.I.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**

„Poranki młodości" (radz.), „Rok Franka W." (polski). 1—5.I.

**Орля**

„Mój przyjaciel Delfin" (USA), „Mocne uderzenie" (polski) 1—5.I.

**Райск**

„Ja twój syn" (czeski), „Życie zamku" (franc.), 1—5.I.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**

„Jak pozbyć się Helenki" (czeski), 31.XII—1.I. „Paryż — Warszawa bez wizy" (polski), 2—3.I. „Zemsta OAS" (franc.), 4—5.

**Міхалова**

„Partyzant z Lelejskiej góry" (jugosł.), 31.XII—1.I. „Zemsta OAS" (franc.), 2—3.I. „Ostatni po Bogu" (polski) 4—5.I.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**

„Niewidzialny batalion" (jugosł.), 31.XII—1.I. „Gra uczuć" (hiszpański), 2—3.I. „Hrabina Cosel" (polski), 4—5.I.

**Шудзялава**

„Skarb bizantyjskiego kupca" (czeski), „Szkoła grzeszników" (czeski), 1—5.I.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**

„Gdzie jest generał" (polski), „Hasło Korn" (polski), 1—5.I.

**Новы Двор**

„BS-38-15" (NRD), „Zaufaj mi Anno" (bułg.) 4—5.I.

**Ліпск**

„Niespokoje wychowanka Torlesa" (NRF), „Walizka z milionami" (franc.), 4—5.I.

Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

B.Z.Graf. G-1 NAKŁAD 6571

# ЧАМУ ВЕЦЕР НЕ ЎМЕЕ ІГРАЦЬ

Каля дзвярэй адной хаты чуліся чароўныя гукі. Вецер, які з часу свайго з'яўлення на свет быў надта цікаўны, прыляцеў сюды і ўбачыў, што нейкі хлопчык сядзіць на парозе і іграе на доўгай тоненькай трубачцы.

— Што ты робіш? — спытаў вецер.

— Іграю, — адказаў хлопчык.

— А што гэта ў цябе ў руках?

— Жалейка.

Вецер закруціўся, агледзеў як мае быць жалейку і зноў запытаў:

— А як ты іграеш?

— Ці ты не бачыш? Дзьму і іграю.

— Ха, а чаму я цэлымі днямі дзьму, а ў мяне не выходзіць так, як у цябе?

— Не ўмееш — таму! — адказаў хлопчык.

Вецер са злосці ўзвіўся ўверх і апынуўся на страсе. Тут была труба значна большая за тую што ў хлопчыка. Вецер абвіўся вакол яе і гэтак моцна пачаў дзьмуць, што аж хата задрыжала.

Але, прыслухаўшыся, ён зразумеў, што ў яго нічога не атрымліваецца, і зляцеў уніз.

— Навучы мяне іграць! — пачаў прасіць ён хлопчыка.

Хлопчык зірнуў на яго і пацісну плячыма:

— Не магу!

— Чаму? Я ўмею дзьмуць нават лепш за цябе!

— Яно так, але справа не толькі ў гэтым. Трэба мець яшчэ сэрца.

Вецер яму не паверыў і вырашыў навучыцца іграць самастойна. Таму і па сённяшні дзень лятае ён ад коміна да коміна, ад трубы да трубы і дзьме ў іх з усёй сілы. Але музыкі так і не атрымліваецца.

**А. Міхайлаў**



Паляўнічага я адпусціў, толькі зняў з яго скуру.

# НІЎКА





ФАРТЭПІЯННЫ ДУЭТ

### ТОЛЬКІ...

— Я бяру гэту хустку. Толькі, калі яна не спадабаецца жонцы, ці можна будзе абмяняць на другую?

— Канечне.

— А колькі разоў?

### АКАЗВАЕЦЦА, ВЕДАЕ

— Дзеці, — сказала настаўніца, — у кнізе побач з імем Гёте стаіць лічба (1749—1832). Што гэта азначае?

Ганс падымае руку.

— Я ведаю. Гэта нумар яго тэлефона.

### ХТО

На вакзале ў перапоўнены аўтобус спрабуе ўлезці яшчэ адзін чалавек.

— Асцярожна! — крычаць пасажыры. — Ніўжо вы не бачыце, што болей няма месца! Хто вы такі, каб тут піхацца?

— Я... шафёр.

### ДЗЯЛІЛІ

Вяртаецца муж позна ноччу з палявання. Жонка кажа:

— Дзе гэта цябе так пакалечылі? Увесь твар у сіняках.

— Не палохайся, гэта мы з Раманам зайца дзялілі.

### ЧАМУ

Жонка: — Не разумею, чаму доктар забараніў мне гатаваць страву?

Муж: — Можа ён клапоціцца аб маім здароўі?

### СУСРЭЧА

З аднаго пісьма:

«Прабач, што я не магу сустрэць цябе, мілы дзядзька, на вакзале. Прыйдзе мая жонка. Каб яна пазнала цябе, трымай у левай руцэ парася альбо хоць гуся...»



Без слоў.

*Гумар з барадою*

### АДВАКАТ І МУЖЫК

Адзін мужык вылаяў і прыбіў да паўсмерці нейкага чалавека. Прыйшла павестка ад міравога, каб явіўся на суд. Бачыць мужык, што будзе дрэнна, ідзе да адваката і просіць яго, каб навучыў, як тут выкруціцца. Адвакат і кажа: «Прыкінься дурнем: як запытаецца міравы, ты і кажы: «Ну дык што?», як другі раз запытаецца: — «А яшчэ што?» Мужык так і зрабіў. Яўляецца на суд, яго міравы і пытае:

— Ты такі та а такі та?

— Ну дык што ж?

— Тебя обвиняют в изувечении такого а такого та.

— Ну, а яшчэ што?

— Дурак, отвечай на вопросы.

— Ну дык што?

Парашылі, што ён дурань, і пусцілі. Спатыкае яго адвакат:

— Ну, бачыш, як я табе памог?

— Ну дык што?

— А варта б за навуку што-кольвечы даць.

— А яшчэ што?

— Як што, ты павінен мне заплаціць.

— Ну дык што ж?

Адвакат плюнуў і пайшоў ад яго, а мужык ухмыляючыся вярнуўся дамоў.

### АДЗІНЫ СПОСАБ

У апошнія тады свайго жыцця Сара Бернар здымала пакой на апошнім паверсе самага высокага будынка Парыжа. Аднойчы да артысткі прыйшоў адзін з паклоннікаў яе таленту. Цяжка дыхаючы пасля нялёгкай дарогі ўверх па лесвіцы, ён запытаў:

— Якога чорта ты забралася так высока?!

— Мой дарагі, — адказала Сара, — гэта адзіны спосаб, які ў мяне застаўся, каб прымусіць біцца хутчэй сэрца мужчыны.



### З КОЖНЫМ РАЗАМ ГОРШ...

У цесным памяшканні тэрміновай фатаграфіі не павярнуцца. Тут робяць здымкі на дакументы. І тут жа іх выдаюць. Касірка і прымае, і выдае заказы.

— Выбірайце, якая ваша, — падае яна кучу здымкаў пажылому чалавеку.

Той доўга корпаецца ў той кучы і, знайшоўшы нешта падобнае на сябе, кажа сябру:

— Гэта, здаецца, я.

Яго месца займае наступны. Праз некаторы час ускрыквае:

— Мая! Але ж вуха... Дзе маё левае вуха?

— Дамалюеце, — крычыць наступны з чаргі. — Не затрымлівайце!

Месца мужчыны займае пажылая жанчына.

— Горш, чым у той раз, — кажа яна, знайшоўшы сваю фатаграфію. — Трэці раз здымаюся і ўсё горш і горш.

— А калі вы першы раз здымаліся? — пытае падышоўшы фатограф.

— Гадоў з дзесяць.

— Дзесяць? Тады крыўдуйце на шарык, — абвёў ён круг пальцам.

— Які шарык?

— Зямны. Ён, на жаль, круціцца.

**Леанід Прокша**

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе Ніны Марчук і Віктара Харытанюка з в. Цялушкі Бельскага павета змяшчаем польскую песню.

## KIEDYŚMY WRACALI...

SŁOWA: MIROSŁAW ŁEBKOWSKI I STANISŁAW WERNER
MUZYKA: WITOLD RUDZIŃSKI

Kiedyśmy wracali z Berlina, z Berlina,
to wyszła nas powitać dziewczyna, dziewczyna,
i śmiechu było dużo i było trochę łez,
a w lufy automatów zatknęli chłopcy bez,
a w lufy automatów zatknęli chłopcy bez.

Kiedyśmy wracali strudzeni, strudzeni,
kłanialiśmy się drzewom i ziemi, i ziemi,
bo drzewa nas chroniły, koiły ogień ran,
a ziemia nasza ziemia życzliwa była nam,
a ziemia nasza ziemia życzliwa była nam.

Kiedyśmy wracali szosami, drogami,
to ciągle pieśń frontowa szła z nami, szła z nami,
płynęła siwą Oką, radośnie wiodła nas,
a szliśmy od zachodu ku bramom polskich miast,
ku bramom polskich miast.

Kiedyśmy wracali zwycięzcy, zwycięzcy,
to braliśmy dzieciaki na ręce, na ręce,
i w ciszy zawstydzonej zamierał nagle żart,
i głowy wiejskich dzieci tuliliśmy do warg,
i głowy wiejskich dzieci tuliliśmy do warg.

Gdy mój ojciec z wojny do ruin powrócił,
to znowu się na zachód odwrócił, odwrócił,
spalonym poszedł traktem, gdzie wczoraj chodził front,
aż schylił się nad pługiem i właśnie tu mój dom,
i właśnie tu mój dom.

# КУРЁЗЫ

### МІЛЬЯРДЫ НА АХОЎНІКАЎ

Згодна з падлікамі ўрада і прыватных дэтэктываў, за мінулы год амерыканскія прамыслоўцы страцілі толькі з-за крадзяжу маёмасці не менш двух мільярдаў долараў ды яшчэ столькі з-за пірацкага гандлю сакрэтамі. Каб неяк утрымаць страты на гэтым астранамічным узроўні, фірмам давялося наняць 176 тысяч ахоўнікаў — цэлую армію, на ўтрыманне якой выдаткавана яшчэ 1,3 мільярда долараў.

### БАСЕЙН — АКВАРЫУМ



Сценкі гэтай кулі, у якую змяшчаецца дзве тысячы літраў вады, зроблены з празрыстага пластыку. Такі ўнікальны басейн зроблены у ЗША.

### НЕЧАКАНАЕ ПАКАРАННЕ

У пастанове падатковага ўпраўлення Англіі значыцца: «Пенсіянерам, якія зрабілі злачынствы і прыгавораны да смяротнай кары, выплата пенсій аўтаматычна спыняецца».



Часам мы лічым неракананымі тых, каго нам удалося толькі ўгаварыць.